№ 30(185)
2 – 8 жніўня 2001 г.

Заснавана ў ліпені 1997 г.

http://kapp.nsys.by

# рабочы

ШТОТЫДНЁВАЯ МАСАВА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

**38** дзён да прэзідэнцкіх выбараў



# ЯНЫ ПАТРАБУЮЦЬ ПЕРАМЕНАЎ

## КАНГРЭС БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ АДБЫЎСЯ Ў МІНСКУ



Гэта быў дзіўны сход. З аднаго боку — усё, як патрабуе афіцыйная традыцыя: прэзідыум, віншаванні ад сяброўскіх партый з-за мяжы. З другога — дэлегацкі мандат хто-ніхто з удзельнікаў Кангрэсу прышпіліў да махрыстых джынсаў, амаль усе ў працецкіх майках — аранжавых ды белых з чырвоным сонейкам, "маладафронтаўскіх", проста з надпісамі "Выбірай!" ці "Пераможам!"... З аднаго боку — падкрэсленая ўвага да Кангрэсу з боку патэнцыяльных кандыдатаў у прэзідэнты, выступы ветэранаў дэмакратычнага руху, з другога — забойны канцэрт рок-гурта "N.R.M." напрыканцы. З аднаго боку — тыповае маладзёвае тусаванне ў перапынках, з другога — вельмі сур'ёзныя семінары тыпу "Перадвыбарчая стратэгія", "Праваабарона падчас выбараў" ці "Мабілізацыйная кампанія". Палітычны бодзі-арт ды смешныя хэпенінгі ў фае — і трывожныя справаздачы аб колькасці збітых, арыштаваных, упартае адстойванне менавіта свайго пункту гледжання аб асобе заўтрашняга асноўнага кандыдата ад апазіцыі...

У любым выпадку ўсё было шчыра, сумленна і ніяк не нагадвала сходкі маладых бюракратаў з БПСМ, з іх прытворна-задорным "Я за Бацьку!". Хлопцы ды дзяўчаты, што сабраліся на Кангрэс, — людзі дарослыя, да свайго будучага, да будучага сваёй краіны ставяцца ўсур'ёз і ніякаму "бацьку" аддаваць яе не хочуць...

Сярод тых, хто вітаў Кангрэс, быў і вядомы беларускі рэжысёр Юрый Хашчавацкі. Ён сказаў:

— Справа не ў тым, каб перамог Ганчарык ці Домаш. Справа нават не ў тым, каб прайграў Лукашэнка. Справа ў тым, каб перамаглі вы!

*Працяг тэмы — на стр.6.*

# От чего умирают беларусы?




*Источник: Министерство статистики и анализа Республики Беларусь.*

**Раньше в Беларуси за год убивали людей столько, сколько сейчас в одном Минске убивают. Самоубийств было в три раза меньше. Водкой не перепивались до смерти; то есть перепивались, но вчетверо реже. Пропадало без вести меньше людей.**

**А теперь сами видите: больше всего умирают от инфарктов, инсультов, онкологических заболеваний. Чернобыль аукается. Очень много смертей, связанных с легочной патологией - к нам вернулся туберкулез. Много желудочных заболеваний. Почему так получается и почему нация сокращается? Потому что право на жизнь провозглашается, но не гарантируется. Никому.**

**Грустная тема. Она связана со всеми остальными. Потеря жизни начинается с потери иных прав: права на хорошее жилье, нормальное питание, отдых. Умираем от бедности, плохого питания, малограмотности, загрязненной нами же окружающей среды, от бескультурья. А есть еще беременность с патологиями. Есть сироты и безотцовщина — столько и после войны не было ...**

**Думать надо, как идти туда, куда все умные люди идут. Думать и выбирать.**

## АД СЕРАДЫ ДА СЕРАДЫ

### ЗВАРОТ

**Беларускі Хельсінкскі камітэт накіраваў зварот у Савет Рэспублікі і Палату прадстаўнікоў з заклікам тэрмінова склікаць пазачарговыя сесіі і правесці парламенцкія расследаванні прыналежнасці Лукашэнкі да палітычных забойстваў. БХК лічыць неабходным да высвятлення абставінаў знікнення Юрыя Захаранкі, Віктара Ганчара, Анатоля Красоўскага і Дзмітрыя Завадскага адхіліць ад займаемых пасад Генпракурора В.Шэймана, намесніка кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта Ю.Сівакова, міністра МУС У.Навумава і камандзіра спецатрада хуткага рэагавання Д.Паўлючэнку.**

### АКЦЫЯ

**У ноч з 26 на 27 ліпеня Малады Фронт правёў у Мінску чарговую акцыю «Горад – наш», прысвечаную гэтым разам Дню незалежнасці. Сябры арганізацыі развесілі бел-чырвона-белыя сцягі над штабамі дэмакратычных прэтэндэнтаў на пасаду прэзідэнта, каб нагадаць аб нацыянальным сімвале Беларусі.**

### ЗДАРЭННЕ

**Ужо не першы акт вандалізму ў Курапатах – месцы, дзе ў сталінскі час карныя органы НКВД расстрэльвалі мірных жыхароў, учынены, як мяркуецца, у ноч на 22 ліпеня. Невядомыя разбурылі мемарыяльны знак «Ад народу Злучаных Штатаў Амерыкі беларускаму народу дзеля памяці», устаноўлены падчас візіту прэзідэнта Біла Клінтана ў Беларусь у студзені 1994 года.**

### ЦЭНЫ

**З 24 ліпеня павялічыліся цэны на нафтапрадукты. На аўтазаправачных станцыях 1 літр аўтабензіну А-76 каштуе 475 рублёў, АІ-92 – 585 руб., АІ-95 – 670 руб., дызельнага паліва – 410 руб.**

### СТРАТЫ

**Як паведамілі ў Рэспубліканскім таварыстве ратавання на вадзе, з пачатку года ў рэках і вадаёмах Беларусі патанулі 859 чалавек (сярод іх 118 дзяцей).**

* * *

**Паводле звестак Міністэрства па надзвычайных сітуацыях, за 6 месяцаў гэтага года адбылося 6048 пажараў. Загінулі 544 чалавекі, 28 з якіх – дзеці; пашкоджаны 1632 збудаванні.**

# МОЙ ТЫДЗЕНЬ

*1 жніўня Ў Мінску у Доме літаратара (вул. Фрунзе, 5) адкрыецца фестываль дакументальных фільмаў, знятых чэшскімі, эстонскімі, галандскімі, англійскімі і іншымі рэжысёрамі. Карціны прысвечаны пераломным момантам у сучаснай гісторыі краін Усходняй Еўропы. Сярод стужак – «Беларусь у цені Сталіна», якая расказвае пра лёсы чатырох палітыкаў, што зніклі ў Беларусі, і фільм Юрыя Хашчавацкага «Звычайны прэзідэнт». Каб паказ карцін адбыўся і ў іншых гарадах Беларусі, трэба звязацца з арганізатарамі па тэл.: 8 029 2823650.*

## Баталіі на БТ

Як паведамляў "Рабочы" (№ 26,2001), 27 чэрвеня работнікі перспектыўнага вяшчання Беларускага тэлебачання утварылі сваю прафсаюзную арганізацыю. На сваім першым пасяджэнні кіруючы прафсаюзны орган звярнуўся да свайго кіраўніцтва з прапановай аб сустрэчы. Журналісты хацелі абмеркаваць з выконваючым абавязкі генеральнага дырэктара Я.Рыбаковым свае працоўныя праблемы. Але на працягу месяца сустрэча так і не адбылася.

27 ліпеня прафбюро зноў правяло сваё пасяджэнне. У выніку бурнай дыскусіі аднагалосна была прынята заява, тэкст якой надрукаваны ніжэй. "Няма нічога дзіўнага, што былое кіраўніцтва не адрэагавала на наш першы зварот, — сказаў у сваім каментарыі нашаму карэспандэнту старшыня прафбюро дырэкцыі перспектыўнага вяшчання Віталь СЯМАШКА. – Ігнараванне для нас чаканае. А калі адкрыюцца фінансавыя махінацыі былога кіраўніцтва БТ, усё будзе зразумелым. Зараз такое адчуванне, што штосьці цёмнае ахапіла ўсё вяшчанне. У гэтым трэба разабрацца, таму што пытанні ўзнікаюць, а адказаў няма. Мы зараз дабіваемся сустрэчы з новым дырэктарам Белтэлерадыёкампаніі Валерыем Скварцовым. Ён ужо азнаёміўся з нашай заявай і паабяцаў сустрэцца з намі на працягу гэтага тыдня".

"Рабочы" будзе трымаць сваіх чытачоў у курсе тэлеспраў.

### ЗАЯВА

**прафбюро дырэкцыі перспектыўнага вяшчання Першага нацыянальнага канала**

На Белдзяржтэлерадыёкампаніі адбылася чарговая змена кіраўніцтва. Замест В. Чыкіна, які не працаваў раней у сістэме тэлебачання, на пасаду старшыні прызначаны В. Скварцоў, які шмат гадоў аддаў радыё і тэлебачанню.З ягоным прыходам шмат хто з нас звязвае надзеі на якасныя змены ў вяшчанні і псіхалагічным клімаце ў калектыве, што быў дэстабілізаваны дзейнасцю папярэдняга кіраўніцтва кампаніі.

Год таму, прэзентуючы старое кіраўніцтва, прэзідэнт А. Лукашэнка сказаў, што калі гэтая каманда не справіцца з працай, дык сыдзе ў адстаўку ў поўным складзе. За мінулы год пад прыкрыццём арганізацыйных і творчых зменаў адбылося разбурэнне тэлебачання. З экрана беспадстаўна знятыя праграмы сацыяльна-эканамічнай скіраванасці, мастацка-асветніцкага, маладзёжнага, дзіцячага вяшчання. Без тлумачэнняў былі адхіленыя ад эфіра дзесяткі найбольш дасведчаных прафесіяналаў. Пры гэтым прапанаваныя імі праекты новых перадач не прымаюцца да разгляду або іх ідэі раскрадаюцца са згоды адміністрацыі. Тым часам ільвіная доля неінфармацыйнага вяшчання беспадстаўна перададзеная некалькім недзяржаўным тэлекампаніям, за што кіраўніцтва БТ выплачвае ім неверагодныя грошы.

Паколькі ўсё гэта шкодзіць інтарэсам гледачоў, а шмат хто з тэлевізійшчыкаў пазбаўлены права на прафесію, прафбюро дырэкцыі перспектыўнага вяшчання, якая аб'ядноўвае практычна ўсіх творчых супрацоўнікаў Першага нацыянальнага канала:

– выказвае недавер першаму намесніку старшыні НДТРК Рыбакову Я.У., генеральнаму прадзюсеру Хрусталёву Я.В., генеральнаму дырэктару Дамарацкаму А.М.;

– прапануе дэмакратычна абраць мастацкі савет Першага нацыянальнага канала ў адпаведнасці з існуючым палажэннем;

– патрабуе стварыць грамадскі назіральны савет для кантроля над захаваннем прынцыпаў журналісцкай этыкі і правоў грамадзян на атрыманне аб'ектыўнай інфармацыі з удзелам прадстаўнікоў творчых саюзаў і грамадскіх арганізацый краіны;

– патрабуе праверкі фінансавай дзейнасці кіраўніцтва НДТРК у працы з недзяржаўнымі тэлекампаніямі;

– пакідае за сабой права звярнуцца ў суд з іскам па фактах парушэння нормаў працоўнага заканадаўства і фінансавай дысцыпліны.

Віталь СЯМАШКА
Людміла МЕЛЬНІКАВА
Ганна АРЦЮШКЕВІЧ
Зоя ЛАТУН
Алена ДАВЫДАВА
Віктар КАЛАШНІК
Ала САЛАЎЁВА
Святлана ШАФРАНСКАЯ
Ларыса АНДРЭЕВА

## Даешь зарплату!

На Пинском производственном трикотажном объединении заработную плату не выплачивают с мая 2001 г. Чтобы както выйти из положения, администрация объединения предлагает работникам получить заработанное готовой продукцией, т.е. изделиями из трикотажа. Однако такой шаг популярностью не пользуется, работники не хотят брать продукцию в счет зарплаты, и проблема выплаты остается актуальной.

В коллективном договоре, принятом на 2001 год, администрация обязуется выплачивать заработную плату не позднее 28 числа следующего за отработанным месяцем. Следовательно, она нарушила положения коллективного договора. Более того, Генеральное соглашение, подписанное 25 мая 2001 года, исключает выплату заработной платы готовой продукцией и, согласно постановлениям правительства РБ, должна быть проиндексирована. Этого не случилось. Таким образом, были нарушены права работников. Похожая ситуация сложилась и на Пинском деревообрабатывающем объединении.

**Геннадий ХОМИЧ.**

## Неабыякавыя не маўчаць

***26 ліпеня ў Мінску адбылася акцыя «Ланцуг неабыякавых людзей», прысвечаная зніклым у Беларусі вядомым людзям. Нягледзячы на тое, што на правядзенне мерапрыемства дазвол ва ўладаў не пыталі, міліцыянты не рызыкнулі пайсці на разгон удзельнікаў.***




Першымі ў ланцуг сталі жонкі прапаўшых – Святлана Завадская з 10-гадовым сынам Юрай, Ірына Красоўская, удава заўчасна памерлага Генадзя Карпенкі, Таццяна Леановіч з фотаздымкам зняволенага мужа Андрэя Клімава. Усяго на ходніках уздоўж праспекта Скарыны ад Кастрычніцкай плошчы да плошчы Незалежнасці стаялі некалькі соцень чалавек. Некаторыя хадзілі з партрэтамі проста сярод пешаходаў, многія з якіх таксама далучаліся да ўдзельнікаў акцыі. На яе прыйшлі палітыкі, праваабаронцы, журналісты, прадстаўнікі замежных амбасад. «Ланцуг» стаў найбольш масавай акцыяй-напамінам аб знікненні няўгодных рэжыму людзей апошнім часам. Прысутныя засведчылі, што ўладзе рана ці позна прыйдзецца адказаць на пытанні: «Дзе Захаранка? Дзе Ганчар? Дзе Красоўскі? Дзе Завадскі?».

## ЖОНКІ ЗА МУЖОЎ

***Жонкі вядомых у Беларусі людзей, якія прапалі без вестак або пацярпелі ад рэжыму, вярнуліся нядаўна з паездак у Маскву, Парыж і Вашынгтон, дзе сустрэліся з прадстаўнікамі ўлады і грамадскасці.***



Як заявілі падчас прэс-канферэнцыі Святлана Завадская, Ірына Красоўская, Таццяна Леановіч (жонка Андрэя Клімава) і Людміла Карпенка, мэтай іх візіту было прыцягненне ўвагі міжнароднай супольнасці да таго, што адбылося з іх блізкімі. Яны лічаць, што гэта ім удалося. Па фактах знікненняў Захаранкі, Ганчара, Красоўскага і Завадскага Дзярждэпартамент ЗША прыняў адмысловую заяву да беларускіх уладаў з заклікам правесці неабходныя расследаванні. Амерыканскія палітыкі паабяцалі таксама пасадзейнічаць у стварэнні міжнароднай камісіі па высвятленні лёсаў прапаўшых. Сенатары збіраюцца абмеркаваць тэму парушэння правоў чалавека ў Беларусі і з прэзідэнтам Джорджам Бушам. А кангрэсмен Крыстафер Сміт мае намер асабіста прыехаць у нашу краіну і сустрэцца з палітычнымі вязнямі.

## Маладафронтавец сапсаваў Лукашэнку свята




***Скандалам адзначылася 20 ліпеня адкрыццё «Славянскага базару» ў Віцебску. Напрыканцы імпрэзы, калі гледачы з кветкамі ў руках пачалі выходзіць да сцэны, маладафронтавец Андрусь Капорыкаў на вачах Лукашэнкі са словамі «Жыве Беларусь!» разгарнуў падчас канцэрта бел-чырвона-белы сцяг.***

Андрусь паспеў яшчэ падкінуць уверх улёткі «Моладзь выбірае будучыню!», а таксама налепкі «А ну-ка, сабяры свой чамаданчык!», адрасаваныя прысутнай у залі вядомай асобе. На яго ў момант накінуліся супрацоўнікі спецслужбаў, якія перад гледачамі, артыстамі і Лукашэнкам збілі 22-гадовага хлопца да страты прытомнасці.

— *Падскочылі чалавек 7 ці 8, дакладна не магу сказаць,* — расказаў потым юнак. – *Спачатку – двое ў «цывільным», з імі я яшчэ змагаўся, не аддаваў сцяг. Білі ў жывот, па нырках, спіне, нагах. Двое, яшчэ памятаю, надзявалі мне кайданкі, а трэці побач з імі крычаў: «Як гэты чорт змог прарвацца?». Апошняе, што мутна ўзгадваю, як мяне цягнуць па лесвіцы, потым па асфальце. І – усё. Страціў прытомнасць. Усе гэта бачылі, вядома: і Лукашэнка, і людзі... Потым завезлі ў міліцыю. Дапытвалі гадзіны тры, у тым ліку і намеснік начальніка Кастрычніцкага РУУС. Ён паведаміў, што мяне затрымлівала служба бяспекі Лукашэнкі.*

На маладафронтаўца склалі два пратаколы: за хуліганства і распаўсюджванне ўлётак, і адпусцілі пасля 4 гадзін раніцы. У бліжэйшы час яму сказалі чакаць позвы ў суд.

## ПРОГРАММА ТВ — ПОНЕДЕЛЬНИК, 6 АВГУСТА

**БТ**

6.30, 7.10 Доброе утро, Беларусь!
7.00, 9.00, 11.00, 13.00, 15.00, 18.00, 23.15 Новости.
8.00 Резонанс.
9.15, 17.05 «Морская полиция». Сериал.
10.10 Телебарометр. Прогноз погоды.
10.30 Здоровье. Тележурнал.
11.15, 22.00 «Человек моря». Сериал.
12.05 «Покахонтос». Мультсериал. (Международный Французский Канал).
13.10 Л.Удовиченко и А.Ливанов в музыкальной комедии «Любовью за любовь» («Мосфильм»).
14.35 Уроки Н.Новожиловой.
15.15 «Миллион одному». Худ.фильм для детей (США).
16.50 Мультфильм.
18.20 Зона Икс.
18.30 «Тайные пружины политики». Авторская программа Юрия Азаренка.
18.55 Худ.фильм режиссера Тсуй Харка «Лезвие» (Гонконг).
20.40 Колыбельная.
21.00 Панорама. Информационный канал.
22.50 Стадион.

**ОРТ**

08.00 Новости.
08.15 «Земля любви». Сериал.
09.15 «Независимое расследование». «Неопознанные летающие объекты».
10.05 «Смехопанорама».
10.40 «Ералаш».
10.50 «Библиомания».
11.00 Новости.
14.45 «Покемон». Мультсериал.
15.05 «Большая стирка».
16.00 «Собачье дело». Сериал.
17.00 Новости.
17.20 «Ералаш».
17.30 «С легким паром!».
18.00 «Земля любви». Сериал.
19.00 «Жди меня».
20.00 «Время».
20.40 «Закон джунглей». Сериал.
21.35 «Секретные материалы». Сериал.
22.30 Новости.
22.45 «На футболе».
23.25 «Полная безопасность». Сериал.

**РТР**

07.00, 08.00 «Вести».
07.15 Мультфильмы.
07.30 «Москва - Минск».
07.45 «Православный календарь».
08.15 «Два рояля».
09.00 «Моя семья».
10.00 «Вести».
10.30 «Фитиль».
10.45 «Санта-Барбара». Сериал.
16.00 «Вести».
16.30 «Сам себе режиссер».
17.00 «С новым счастьем!» Сериал.
18.00 «каникулы с «Аншлагом».
19.00 «Вести».
19.30 «Вести-Москва».
19.50 Психологическая драма «Свободное падение».
21.25 Чемпионат мира по легкой атлетике.
22.00 «Вести».
22.30 «Вести-Москва».
22.40 «Творческий вечер Анастасии Волочковой».
00.15 «Спорт за неделю».
01.10 Чемпионат мира по легкой атлетике.
02.10 Прогноз погоды.

**НТВ**

05.00, 06.00, 07.00 Сегодня утром.
05.15, 06.15, 07.15 Спорт, погода.
05.20, 06.25 Криминал.
05.30, 06.35 Впрок.
05.40, 06.45 07.20 Карданный вал.
05.45 Мультфильм.
07.30 Сериал «Курортный роман».
09.00 Сегодня.
09.30 Сериал «Курортный роман».
11.00 Сегодня.
11.30 Сериал «Вечный зов».
13.00 Сегодня.
13.30 Старый телевизор.
14.40 «Куклы».
15.00 Сегодня.
15.35 Криминал.
15.50 Сериал «Ее звали Никита».
17.00 Геннадий Хазанов. «Жил-был я...»
18.00 Сегодня.
18.35 Криминал.
19.05 Сериал «Поющие в терновнике».
20.15 «Криминальная Россия».
21.00 Сегодня.
21.50 Сериал «Шейх Бадияр по прозвищу «Пират».
23.00 Криминал.
23.20 Сериал «Неприкасаемые».

**КУЛЬТУРА**

07.05 «Новости культуры».
07.20 «После новостей...».
07.40 Фильм-сказка «Синяя птица».
09.15 «Дело житейское».
09.50 Фильм «Станислав Лем. Научное и фантастическое».
10.35 «Вихрь цветов» (Франция). Сериал.
11.30 «Новости культуры».
11.40 Музыкальный фильм-сказка «Андрюс».
12.45 «Посередине царствия земного».
13.30 «Новости культуры».
13.45 «Ох, уж эти детки!» (США). Мультсериал.
14.30 «Кто мы?» из цикла «Реформы по-русски».
15.00 Новости.
15.10 «Энн из поместья «Зеленые крыши». Сериал.
15.45 «Музыкальные дома».
16.10 «Архитектурная галерея».
16.20 «Власть факта».
16.35 «Вихрь цветов» (Франция). Сериал.
17.30 «Новости культуры».
17.40 «Из концертного зала».
18.20 «Острова».
19.10 «Вечерняя сказка».
19.25 Программа передач.
19.30 «Новости культуры».
19.50, 21.35 Максим Горький. «Чудаки». Спектакль Академического Малого театра.
21.15 «После новостей...».
23.05 «Новости культуры».

**ТВ6**

05.00 День за днем.
05.45 Дорожный патруль.
06.00 День за днем.
08.00 Новости.
08.25 Сериал «Агент национальной безопасности-II».
09.25 «Все в сад!».
10.00 «В нашу гавань заходили корабли».
10.50 Телемагазин в Минске.
11.10 Сериал «Следствие ведут знатоки».
13.15 «Интересное кино».
14.00 «Сегодня».
14.30 Сериал «Чехов и К...».
15.25 Телемагазин в Минске.
15.40 Телемагазин в Минске.
16.20 Сериал «Третья планета от Солнца».
16.50 Сериал «Возвращение Шерлока Холмса».
18.00 «Сегодня».
18.40 Сериал «Шпионские игры».
19.45 Дорожный патруль.
20.00 «Сегодня».
20.40 Сериал «Последний Дон».
22.00 «Сегодня».
22.40 Дорожный патруль.
22.55 Комедийный боевик «Приди и возьми».
00.20 Дорожный патруль.

Пад слоганам «Час пераменаў» пройдуць гульні маладзёвага футбольнага турніра, прысвечанага выбарам прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Сярод арганізатараў чэмпіянату – моладзь Аб'яднанай грамадзянскай партыі, Беларускае аб'яднанне маладых палітыкаў, Маладыя сацыял-дэмакраты і Моладзевы хрысціянска-сацыяльны саюз. Тэл. для даведак: (8-017) 282-40-27.

# «Зубры» на пляцы Перамогі

*Дзень незалежнасці адзначала сёлета пераважна моладзь. Хлопцы і дзяўчаты з руху "Зубр" правялі 27 ліпеня ў Мінску на пляцы Перамогі адмысловую акцыю.*



Сотні маладых людзей у майках з надпісамі "*Зубр*" і "*Час выбіраць*" сабраліся ля манумента ў гонар перамогі. Яны ўсклалі да Вечнага агню кветкі і вянок з бел-чырвона-белай стужкай і надпісам: *"Змагарам за незалежную Беларусь ад руху супраціву "Зубр"*. Там жа некалькі чалавек прынялі прысягу на вернасць беларускаму народу і сваім таварышам: "*Клянуся з усіх сіл змагацца супраць дыктатуры. Клянуся дапамагаць у цяжкую часіну сваім братам-зубрам. Клянуся абараняць сваю радзіму, не шкадуючы часу, здароўя, а калі спатрэбіцца –жыцця*".



Мерапрыемства моладзі стала поўнай нечаканасцю для спецслужбаў. Праз нейкі час на плошчу прымчаліся аўтобусы з міліцыяй. Зубры дасталі партрэты зніклых Юрыя Захаранкі, Віктара Ганчара, Анатоля Красоўскага, Дзмітрыя Завадскага, заўчасна памерлага Генадзя Карпенкі і пайшлі па ходніках праспекта. Моладзь сталі спыняць асобы ў штацкім, тады зубры селі на асфальт і пачалі скандзіраваць: "*Жыве Беларусь*!", "*Зубр – за свабоду!*" і "*Час выбіраць!*". Кіроўцы аўтамабіляў, якія праязджалі паблізу, сігналілі, выказваючы салідарнасць з моладдзю. Калі супрацоўнікі спецслужбаў пачалі біць нагамі ўдзельнікаў акцыі, тыя выкрыквалі: "Смерць фашызму".



Больш як 20 зуброў затрымалі, многіх моцна збілі. Кіраваў аперацыяй палкоўнік мінскага АМАПу Падабед. У адказ на неапраўдана жорсткія дзеянні вартавых парадку зубры сабралі пісьмовыя сведчанні пацярпелых, высвятляюць прозвішчы міліцыянтаў, што збівалі, і рыхтуюць позвы ў суд. У сувязі з ганебнымі паводзінамі праваахоўных органаў моладзь збіраецца наладзіць акцыю пратэсту ля будынка МУС.

# Прабег за свабоду Шчукіна

*Прадстаўнікі Маладога Фронту Павел Севярынец і Андрусь Саротнік падалі заяўку ў Мінскі гарвыканкам на правядзенне прабегу "Выбірай свабоду!" у падтрымку праваабаронцы Валеры Шчукіна, які зараз знаходзіцца ў жодзінскім следчым ізалятары.*

Як паведамілі ў прэс-службе Маладога Фронту, акцыя запланавана на 13 жніўня, старт – а 8-й гадзіны раніцы ад скрыжавання праспекта Ф.Скарыны з Мінскай кальцавой аўтадарогай, а фініш – ля СІЗА ў Жодзіне. У прабегу возьмуць удзел некалькі груп, якія будуць перадаваць адна адной эстафету – белыя сцягі з надпісамі "Свабоду Шчукіну!", "Выбірай свабоду 09.09.2001" і бел-чырвона-белае палотнішча.




# «Мост у будучыню»

*20 – 24 ліпеня ў Брэсцкай вобласці мясцовыя арганізацыі Цэнтр «Форум», Беларускі саюз моладзі і іншыя маладзёвыя групы наладзілі велапрабег «Мост у будучыню».*

Акцыя праходзіла па маршруце Камянюкі – Камянец – Высокае – Воўчын – Брэст – Белае возера. Апроч прапаганды сацыяльна-палітычнай актыўнасці моладзі і здаровага ладу жыцця, маладыя людзі выступілі з культурнай праграмай: музычнымі і гумарыстычнымі нумарамі, конкурсамі і віктарынамі і, зразумела, з запрашэннем да ўдзелу ў галасаванні 9 верасня. У кожным горадзе, дзе праходзіў велапрабег, прайшлі сустрэчы з прадстаўнікамі мясцовай улады, якія праявілі зацікаўленасць у правядзенні падобных мерапрыемстваў.

# Рок-князёўна – у Жодзішках

*24 ліпеня ў мястэчку Жодзішкі (Смаргонскі раён Гродзенскай вобласці) адбылася творчая сустрэча з рок-князёўнай Беларусі Касяй Камоцкай. Акцыя адбывалася пад сімвалам кампаніі «ВЫБІРАЙ» — аранжавым сонейкам.*

На імпрэзу сабраліся не толькі мясцовыя жыхары, але дзеці і выхавацелі з летнікаў, размешчаных пад Жодзішкамі. У паўзах паміж песнямі праводзілася віктарына па гісторыі і культуры Беларусі. Пераможцы атрымалі прызы — касеты Касі Камоцкай і гурта «Новае неба». Кася яшчэ раз нагадала пра дату выбараў і запрасіла мясцовых жыхароў 9 верасня прыняць удзел у галасаванні, каб вырашыць самім сваю будучыню і несці за яе адказнасць. Папярэднія выступы Касі Камоцкай адбыліся ў Любані і Мар'інай Горцы (Мінская вобласць). Сустрэчы адмыслова ладзяцца ў невялікіх мястэчках, дзе не хапае інфармацыі і музычных імпрэзаў.

# Запрашэнне на выбары

*25 ліпеня сябры Маладога Фронту і Маладыя сацыял-дэмакраты прайшлі шэсцем па цэнтральнай вуліцы Бабруйска з расцяжкай «ВЫБІРАЙ 9.09.2001» ды сонейкам. Яны неслі ў руках аранжавыя паветраныя шарыкі і раздавалі жыхарам гораду газеты «Рабочы» і «Наша свабода».*

У гарадскім парку маладафронтаўцы і сацыял-дэмакраты раздавалі моладзі яшчэ і прэзерватывы са стужкамі, на якіх было напісана: *«9 верасня — выбары. Вырашаецца твой лёс. Прыходзь на выбарчы ўчасак»*.

У парку міліцыянты пачалі высвятляць у арганізатараў мерапрыемства, што за сімволіка змешчаная на расцяжцы, аднак ніякіх прычын для затрымання людзей не знайшлі.

# Дом наш – Беларусь!

*27 ліпеня ў Мінску на плошчы Бангалор прайшоў канцэрт «Пабудуем дом наш —Беларусь», прымеркаваны да Дня незалежнасці Рэспублікі Беларусь.*

У імпрэзе ўзялі ўдзел гурты "N.R.M.", "ZET", "ULIS", "Крама", "Зьніч", "Аналіз", «Сплэнэцік». Сюрпрыз для слухачоў падрыхтаваў гурт «Крама», які выканаў песню «Пабудуем дом наш —Беларусь» на музыку славутага хіта гурта «The Beatles». Сябры Маладой Грамады пабудавалі на плошчы, дзе праходзіў канцэрт, сімвалічны гмах – Дом Беларусь, і абклеілі яго налепкамі «ВЫБІРАЙ». Міліцыянты некалькі разоў спрабавалі разбурыць пабудову, але яе кожны раз аднаўлялі. Падчас канцэрту сярод слухачоў меркавалася правесці галасаванне. Былі падрыхтаваны бюлетэні з прозвішчамі чатырох прэтэндэнтаў на прэзідэнцкую пасаду (Уладзіміра Ганчарыка, Сямёна Домаша, Сяргея Гайдукевіча і Аляксандра Лукашэнкі), але за гадзіну да канцэрта міліцыянты канфіскавалі бюлетэні. Захоплены былі таксама каляндарыкі кампаніі «Выбірай» і ўлёткі.



Старшыня Маладога Фронту Павел Севярынец павіншаваў моладзь з Днём незалежнасці. Таксама быў зачытаны зварот ад прэтэндэнта на пасаду прэзідэнта Сямёна Домаша, які на той час знаходзіўся за мяжой: *«Прывітанне ўсім прыхільнікам беларускага року! Беларусь будзе вольнай еўрапейскай краінай! Я перакананы: у Беларусі будуць створаны ўсе ўмовы для развіцця нашай беларускай музыкі. Прыйдзе час, калі нашыя гурты будуць займаць першыя месцы ў сусветных хіт-парадах. Толькі разам мы пабудуем Дом Наш - Беларусь! Толькі разам мы пераможам!»*.

(Паведамленні падрыхтаваны з выкарыстаннем сайту кампаніі «Выбірай»: http://www.vybiraj.org).

## ПРОГРАММА ТВ — ВТОРНИК, 7 АВГУСТА

**БТ**

6.30, 7.10 Доброе утро, Беларусь!
7.00, 9.00, 11.00, 13.00, 15.00, 18.00, 23.45 Новости.
8.05, 17.05 «Морская полиция». Сериал.
9.10, 21.55 «Человек моря». Сериал.
10.00 Республиканское селекторное совещание по вопросам уборки урожая. Прямая трансляция.
12.00 Стадион.
12.30 Арсенал. Программа об армии.
13.15 «Без паники, майор Кардаш». Худ.фильм.
14.40 Док.сериал «Сокровища мировой культуры» (Германия).
15.15 «Маленькие изобретения». Мультсериал (Международный Французский Канал).
15.20 «Мой любимый зверь». Док.сериал для детей (Международный Французский Канал).
15.30 «Все на орбиту!» Познавательный сериал для детей (Международный Французский Канал).
15.40 «Маленькие Эйнштейны». Сериал для детей (Германия).
16.10 Приключенческий сериал «Кавингтон Кросс». Заключительная серия.
18.20 Зона Икс.
18.30 «Москва - Минск».
18.55 М.Ладынина в музыкальной комедии режиссера И.Пырьева «Кубанские казаки».
20.40 Колыбельная.
21.00 Панорама. Информационный канал.
22.50 Спорт-курьер.
23.00 Ток-шоу «Будни». «СПИД».

**ОРТ**

08.00 Новости.
08.15 «Земля любви». Сериал.
09.15 «Жди меня».
10.10 «Документальный детектив». «По следу «своих». Дело 2001 года».
10.40 «Ералаш».
10.50 «Библиомания».
11.00 Новости.
15.05 «Большая стирка».
16.00 «Собачье дело». Сериал.
17.00 Новости.
17.20 «Дикие звезды Голливуда».
17.50 «Земля любви». Сериал.
18.50 Сериал «Остров страха».
20.00 «Время».
20.40 Комедия «Крылышко или ножка».
22.30 Новости.
22.45 «Цивилизация». Федор Шаляпин.
23.15 Триллер «Гражданин Икс».

**РТР**

08.00 «Вести».
08.15 «Два рояля».
09.00 «Моя семья».
10.00 «Вести».
10.30 «Фитиль».
10.35 «Санта-Барбара». Сериал.
16.00 «Вести».
16.30 «Сам себе режиссер».
17.00 «С новым счастьем!» Сериал.
18.00 «Любовь.ru». Сериал.
19.00 «Вести».
19.30 «Вести-Москва».
19.50 Комедия «Городские пижоны».
22.00 «Вести».
22.30 «Вести-Москва».
22.40 Фантастический триллер «Газонокосильщик».
00.45 Чемпионат мира по легкой атлетике.
01.45 Прогноз погоды.

**НТВ**

05.00, 06.00, 07.00 Сегодня утром.
05.15, 06.15, 07.15 Спорт, погода.
05.20, 06.25, 07.20 Криминал.
05.30, 06.35, 07.25 Впрок.
05.40, 06.45, 07.40 Карданный вал.
05.45 Мультфильм.
07.50 Сериал «Поющие в терновнике».
09.00 Сегодня.
09.25 «Шейх Бадияр по прозвищу «Пират».
10.25 Криминал.
11.00 Сегодня.
11.30 Сериал «Вечный зов».
13.00 Сегодня.
13.30 Старый телевизор.
14.45 Впрок.
15.00 Сегодня.
15.35 Криминал.
15.50 Сериал «Ее звали Никита».
17.00 Геннадий Хазанов. «Жил-был я...»
18.00 Сегодня.
18.35 Криминал.
19.05 Сериал «Поющие в терновнике».
20.15 Совершенно секретно.
21.00 Сегодня.
21.50 «Шейх Бадияр по прозвищу «Пират».
23.05 Криминал.
23.25 Сериал «Неприкасаемые».

**КУЛЬТУРА**

07.00 Программа передач.
07.05 «Новости культуры».
07.20 «После новостей...».
07.40 Вестерн «Ангел и злодей».
09.20 «Консилиум».
09.45 Фильм «Энтони Хопкинс».
10.40 «Вихрь цветов» (Франция). Сериал.
11.30 «Новости культуры».
11.40 Детская мелодрама «Цветные сны».
12.55 Концерт Государственного симфонического оркестра под управлением В.Понькина.
13.30 «Новости культуры».
13.45 «Ох, уж эти детки!» (США). Мультсериал.
14.30 «Кто мы?» из цикла «Реформы по-русски».
15.00 Новости.
15.10 «Энн из поместья «Зеленые крыши». Сериал.
15.40 «Заячий хвостик», «Куплю привидение». Мультфильмы.
16.00 «Путешествие в страну чудаков», «Я - это ты, а ты - это я». Документальные фильмы.
16.35 «Вихрь цветов» (Франция). Сериал.
17.30 «Новости культуры».
17.40 «Сверхнаука». «Вечная молодость».
18.05 «Прима-балерина и Великая княгиня» из цикла «Дворцовые тайны».
18.30 «О времени и о себе». Георгий Гаранян.
19.10 «Вечерняя сказка».
19.20 «По собственному желанию». Мультфильм.
19.30 «Новости культуры».
19.50 «И огонь, и пламя» (Франция - Германия, 1993). Сериал.
20.40 «После новостей...».
21.00 «Я уже при жизни победил...».
21.35 Сериал «Стоявшие вдоль дороги. Винсент Ван Гог».
22.30 «Никитинские вечера».
23.00 «Новости культуры».
23.20 Программа передач.

**ТВ6**

05.00 День за днем.
05.45 Дорожный патруль.
06.00 День за днем.
08.00 Новости.
08.25 Фильм «Бабы».
10.00 Сериал «Шпионские игры».
10.55 Телемагазин в Минске.
11.10 Сериал «Следствие ведут знатоки».
12.50 Сериал «Последний Дон».
14.00 «Сегодня».
14.30 Сериал «Чехов и К...».
15.30 Телемагазин в Минске.
16.15 Сериал «Третья планета от Солнца».
16.50 Сериал «Возвращение Шерлока Холмса».
18.00 «Сегодня».
18.40 Сериал «Шпионские игры».
19.45 Дорожный патруль.
20.00 «Сегодня».
20.40 Сериал «Последний Дон».
22.00 «Сегодня».
22.40 Дорожный патруль.
22.55 Триллер «Одержимый убийством».
00.40 Дорожный патруль.

**Началась подготовка к проведению 1-2 сентября в Молодечно ежегодного фестиваля «Рок-немаўля». Молодые группы, желающие принять участие, могут обращаться в Молодечно по тел.: 7-48-09, 6-94-67 и присылать свои записи: 222310, г.Молодечно, ул. Полевая, 39.**

# ДИКАЯ ОХОТА

**Тридцать лет назад впервые вышел "на охоту" страшный витебский маньяк Геннадий Михасевич. Сегодня мы говорим с человеком, который остановил его.**

***Прежде всего автор приносит извинения витебскому журналисту Анатолию Бруцкому за то, что в материале активно использованы эпизоды из только что вышедшей его, Анатолия Бруцкого, книги "Капкан для душегуба". Оправдаюсь тем, что, во-первых, "Капкан" издан ничтожно малым (299 экземпляров) тиражом, а во-вторых, одно дело книга, а другое — газетная статья; объемы разные, всех подробностей не включишь. Если хотите — считайте данную публикацию своеобразным рекламным анонсом "Капкана". Кого тема заинтересует — пусть ищет книгу.***

* * *

"Капкан для душегуба" рассказывает о том, как был "взят" и изобличен Михасевич, о том, что до сих пор оставалось за рамками многочисленных публикаций про "витебское дело". Это очень подробное и добросовестное исследование. Почему столь малый тираж? Ну, хотя бы потому, наверное, что вспоминать сегодня ту историю – значит, называть имена, которые нынче не в чести. Первое из них – Мечеслава Ивановича Гриба, генерал-лейтенанта милиции, потом – председателя Верховного Совета Беларуси, ныне – главы Центрального координационного совета по наблюдению за выборами. Именно Мечеслав Гриб, в те годы полковник, начальник Витебского УВД, организовывал работу оперативно-следственных групп, поставивших крест на михасевичской "охоте" – и сей факт из его биографии не вычеркнешь.

* * *

– Мечеслав Иванович, – спросил я, – вы, когда этого маньяка искали, как-то его между собой называли? Может, кличку придумали для внутреннего пользования?

Он пожал плечами.

– Не было клички. Убийца – и все. Мы ведь вообще до первого допроса Михасевича не были на 100 процентов уверены, что тут маньяк работает... Да, версия о маньяке была основной, но... Все могло оказаться совсем не так. А если это группа психопатов-садистов? Или "гастролер"? Или просто, несмотря ни на что, разрозненные, никак не связанные преступления?

* * *

Не на криминальном Кавказе, не на зековском Севере – все происходило в образцовой, чинной БССР, самой советской из советских республик. Да, товарищи, и у нас имелись отдельные недостатки. В частности, начиная с 1971 года в Витебской области находили трупы задушенных женщин. Но устоев это не подрывало, поскольку правоохранительные органы убийц отыскивали споро и хватко. Ничего особенного, обычная, товарищи, бытовуха... Эту гражданку сожитель убил, ту – ранее судимый сосед. А вот та – бывает, увы! – на беду свою попалась опустившемуся бродяге. Вы гляньте, что представляет собой некто Тереня, расстрелянный за убийство гражданки Ш., совершенное в Полоцке в ночь с 9 на 10 сентября 1979 года – бывший урка, бомж. Но, как ни крутил, – признался...

Что было, то было – признавались почти все. Потому что слаб рядовой человек против государственной машины, потому что выбить, выдавить из него нужные слова, соблазнить "чистосердечным" всегда находилось кому и получалось без проблем. Впрочем, тех, кто не признавался, осуждали все равно. Хотя требовалось немного – чтобы милиция, прокуратура, судьи каждый раз соблюдали закон до конца, чтобы проверялись все алиби, все сомнения... Как объясняет Мечеслав Иванович, именно этого он потребовал от подчиненных, когда в феврале 1985 года был переведен из Минска в Витебск. По счастью, в витебской милиции его поддержали многие. Слишком часто обнаруживались трупы, слишком многое не сходилось в, казалось бы, завершенных делах. И после каждого такого случая мутные слухи будоражили округу, и женщины на предприятиях боялись идти домой после ночной смены.

* * *

В "Капкане для душегуба" впервые приводятся фото почти всех жертв Михасевича. Меня это сначала царапнуло – все-таки преступления на половой почве, существует же этика! Но нет, специфичность ситуации в том, что изнасилований, как таковых, у Михасевича было чуть-чуть (почему – скажем ниже). Поразило другое – насколько разные это женщины. То яркие, молодые красавицы, то почтенные, пятидесятилетние матери семейств, была и такая, которую соседи звали "Баба-Яга". Отчего так?

– Для него это был вопрос второстепенный, – пояснил Мечеслав Иванович. – Да, иногда в троллейбусе примечал хорошенькую девушку, шел за ней... Но, если срывалось, предпочитал проверенную тактику: выезд на машине в поздний вечер... В сумерках, в туман, в дождь не разглядишь особо наружность той, что голосует на обочине, прося подвезти. Какая попалась – такая попалась...

Они уже пришли к секретному выводу – действует маньяк, серийный убийца. Но как на него выйти? Это тоже сбивало – нечеткость женского типажа, возбуждающего душителя.

*Окончание на стр.7.*

***Письма в «РАБОЧЫ»***

# ЕДИНЫЙ КАНДИДАТ НА ЖЕНСКИЙ ВЗГЛЯД

«Народная воля» напечатала ответы на анкету единого кандидата от оппозиции Владимира Гончарика. Это такая «домашняя анкета», без политики.

Вообще-то Гончарик с первого взгляда любовь у женщин не вызывает – это я скажу честно. Но ведь «герой-любовник», который уже семь лет нами руководит, у нас уже есть. Двоих таких нам не потянуть – все-таки, мы женщины работающие, а после работы — магазины, дети, в парикмахерскую и ту заглянуть некогда. Не любовника хочется, а мужа – заботливого, внимательного, домовитого...

Итак, читаем: особо почитаемыми предметами в школе у Владимира Ивановича были *математика и литература.* Гармоничный человек, этот Гончарик, оба полушария у него хорошо развиты — и правое, и левое. Предпочтения в литературе – *Алексей Толстой, Василь Быков и Владимир Высоцкий.* Тоже неплохо. Толстой любил «мысль государственную», Быков всю жизнь резал правду-матку о нашем народе, Высоцкий – обнажал нерв советской жизни. Все писатели хорошие, личности, не панферовы какие-нибудь. Читаю дальше. Первая любовь: «*Я однолюб. Моя первая и единственная любовь – моя жена. Мы с ней познакомились, когда учились в институте. Поженились на последнем курсе. И с тех пор мы вместе*». Вау! Кристалл, а не мужик. Я, правда, однолюбов ни разу в жизни не встречала. Это первый. (Неужели все правда?) Любимый афоризм Гончарика: «*Отвергая – предлагай, предлагая – действуй*». Выдает традиционалиста, человека спокойного, умеренного, уравновешенного. Такой зарубежных послов не будет выгонять в исподнем. Отношение к спорту – ну, ну... «*В юности в футбол любил играть, в волейбол, потом бегом занимался...*». Ничего особенного, и слава Богу. Любимые блюда: «*Я не привередлив... Яичница со шкварками... Щи, борщи... Мясо, сало...*». В общем, наш человек. Любовь к борщам выдает происхождение из небогатой семьи, щи да каша – еда бедняков. То, что мясо любит, — хорошо. Значит, и мы с мясом будем, если он президентом станет. А вот яичница – примитив. Лучше назвал бы перепелок на вертеле – определенную живинку в образ бы добавил. А с другой стороны – честный человек, отрапортовал как на духу. Дальше спрашивают: на какой машине ездите? Отвечает: «*На «Волге», она еще достаточно новая*». В меру консервативен, уверен в себе. Такой не будет ломать страну «через колено».



В общем, портрет вырисовывается. Конечно, хотелось бы каких-то красок поярче, поколоритнее, чтобы, когда в люди будем выходить, приятно было. Про одежду ничего не сказал, хотя и так понятно: всю жизнь на службе, пиджак, галстук, сорочка, туфли. А мне он больше понравился бы в шикарном небесно-белом спортивном костюме и белых кроссовках. Почему? Потому, что фигура хорошая.

**Лариса СОКОЛОВА,**
**г. Минск.**

# ІДЗІ, ІДЗІ, ІДЗІ...

Прыйшоў дамоў. Сеў. Думаю.

Вось атрымаў пенсію – 50 000. Багаты! Куды і як траціць? Раскладваю кучкамі. За кватэру 10 000. За лекі: нітронг — 14 000, энам – 2 200, валідол, аспірын... Лекі разам з кватэрай, святлом, тэлефонам "цягнуць" на 37 000. Застаецца 13 000. Куплю хлеба і солі – каб павітаць вельмі каштоўнага нашага прэзідэнта, збавіцеля, што ўсіх дзядоў і бабулек ад жыцця збаўляе. Глухасляпога прэзідэнта, які не бачыць нас і не чуе.

Лукашэнка у нас афіцыйна бедны. Больш бедны, чым я. У яго нават кватэры няма. Таму ён не плаціць за святло, ваду, тэлефон і радыёкропку з Нінай Чайкай. А я плачу. Старэчыя слёзы вытру і – у Ашчадбанк. На пошце пенсію атрымаў – у Ашчадбанк аднёс. А жыць?!

Дарагі наш прэзідэнт А.Р.Лукашэнка!

Ці разумееш ты, куды нас завёў? Выбачай за слова "ты", але ж гэта тваё любімае слова. Дык вось, "таварышч", я за цябе старэйшы амаль у тры разы. Не праклінаць цябе я хачу, хаця і вярнуў ты мяне ў галодную і халодную пасляваенную маладосць. Я табе, А.Р.Лукашэнка, пажадаць хачу і параіць.

1) Каб ты жыў сапраўды на адну зарплату. (І колькі ты за яе амерыканскіх лыжаў купіў бы? І ці пракарміў бы дзве тысячы сваіх ахоўнікаў?)

2) Замест той хваробы, якую ты ўтаіў, вазьмі хваробы простыя, "непрэстыжныя", як мае: інфаркт, інсульт, язву страўніка. І лекі купляй па табой жа ўстаноўленых цэнах.

3) Зрабі запас ваты, медыкаментаў, шпрыцоў – на той выпадак, калі трапіш у бальніцу. Вазьмі с сабой прасціну, ручнік, кубак, талерку, відэлец... Мо, не ведаеш – там усяго гэтага вельмі небагата.

4) У шпіталі не прызнавайся, што ты – "той самы Лукашэнка", кажы, што двайнік, бо дактары могуць не тымі пілюлямі накарміць. Не любяць яны цябе. І не толькі Бандажэўскі. Усе не любяць. Кожны доктар шэсць гадоў вучыўся, і не завочна – як ты. А зарабляе...

Толькі не гавары, што я занадта многа ўвагі надаю медыцыне. Зрабіўшы для сябе рай, ты трапіў у пекла. Ці можа нармальна жыць чалавек, якога пільнуюць нават у туалеце? Тут і самы здаровы захварэе.

Шкада мне цябе. Ідзі на пенсію, пабудзь вольным чалавекам. Злазь з даху і не псуй гонту, як кажуць у народзе. А "напсаваў" ты столькі, што, мабыць, мы і не дажывём да тае пары, калі твае завалы разбяруць.

А пра "ўсенародную любоў" ты сам выдумаў. У выніку распаліў "усенародную нянавісць". Так што паслухай маю параду – ідзі да хаты. Праўда, я не ведаю, дзе яна, гэтая "хата". У "Гарадзец", пэўна, цябе дабравольна не прымуць...

**Павел АНТОСЕЎ,**
**г. Мінск.**

## ПРОГРАММА ТВ — СРЕДА, 8 АВГУСТА

**БТ**
6.30, 7.10 Доброе утро, Беларусь!
7.00, 9.00, 11.00, 13.00, 15.00, 18.00, 23.35 Новости.
8.00, 17.05 «Морская полиция». Сериал.
8.45 Письменный экзамен по белорусскому (русскому) языку и литературе в средние специальные учебные заведения.
9.10, 15.40 «Маленькие Эйнштейны». Сериал для детей (Германия).
9.35 Мультфильм.
10.05 Існасць. Духовная программа.
10.30 Док.сериал «Города мира». Фильм «Маракеш»(США).
11.10, 22.15 «Человек моря». Сериал.
12.00 «По страницам «Золотого шлягера». Концерт.
13.10 Т.Акулова и П.Гаудиньш в худ.фильме «Баллада о доблестном рыцаре Айвенго».
14.40 Док.сериал «Сокровища мировой культуры» (Германия).
15.15 «Маленькие изобретения». Мультсериал (Международный Французский Канал).
15.20 «Мой любимый зверь». Док.сериал для детей (Международный Французский Канал).
15.30 «Все на орбиту!» Познавательный сериал для детей (Международный Французский Канал).
16.10 «Приключения швейцарской семьи Робинсонов». Сериал (Франция). 1-я серия.
18.20 Зона Икс.
18.30 Час профессионала.
19.05 М.Шин в фильме-катастрофе «Шторм».
20.40 Колыбельная.
21.00 Панорама. Информационный канал.
21.50 Шаги навстречу.
23.00 Спорт-курьер.
23.10 Криминальное досье.

**ОРТ**
08.00 Новости.
08.15 «Земля любви». Сериал.
09.15 «Остров страха». Сериал.
10.15 «Пока все дома».
10.50 «Библиомания».
11.00 Новости.
11.15 «Добрый день».
15.05 «Большая стирка».
16.00 «Собачье дело». Сериал.
17.00 Новости.
17.20 «Человек и закон».
17.50 «Земля любви». Сериал.
18.50 «Остров страха». Сериал.
20.00 «Время».
20.40 Детективная драма «Вербовщик».
22.30 Новости.
22.45 «Русский экстрим». «Завтрак с акулами».
23.15 Гангстерский боевик «Готти».

**РТР**
08.00 «Вести».
08.15 «Два рояля».
09.00 «Моя семья».
10.00 «Вести».
10.30 «Фитиль».
10.45 «Санта-Барбара». Сериал.
16.00 «Вести».
16.30 «Сам себе режиссер».
17.00 Сериал «С новым счастьем! - 2. Поцелуй на морозе».
18.00 «Любовь.ru». Сериал.
19.00 «Вести».
19.30 «Вести-Москва».
19.50 Комедия «Опасно для жизни!».
21.35 Чемпионат мира по легкой атлетике.
22.00 «Вести».
22.30 «Вести-Москва».
22.40 Комедия «Иштар».
00.40 Чемпионат мира по легкой атлетике.
01.40 Прогноз погоды.

**НТВ**
05.00, 06.00, 07.00 Сегодня утром.
05.15, 06.15, 07.15 Спорт, погода.
05.20, 06.25, 07.20 Криминал.
05.30, 06.35, 07.25 Впрок.
05.40, 06.45, 07.40 Карданный вал.
05.45 Мультфильм.
07.50 Сериал «Поющие в терновнике».
09.00 Сегодня.
09.25 «Шейх Бадияр по прозвищу «Пират».
10.30 «Среда».
11.00 Сегодня.
11.30 Сериал «Вечный зов».
13.00 Сегодня.
13.30 Старый телевизор.
14.45 Впрок.
15.00 Сегодня.
15.35 Криминал.
15.50 Сериал «Ее звали Никита».
17.00 Геннадий Хазанов. «Жил-был я...»
18.00 Сегодня.
18.35 Криминал.
19.05 Сериал «Поющие в терновнике».
20.15 «Растительная жизнь».
21.00 Сегодня.
21.50 «Шейх Бадияр по прозвищу «Пират».
23.00 Криминал.
23.20 Сериал «Солдаты удачи».

**КУЛЬТУРА**
09.00 Программа передач.
09.05 «Сверхнаука». «Вечная молодость».
09.30 Фильм «Рихард Штраус. Романтизм и смирение».
10.25 «Вихрь цветов» (Франция). Сериал.
11.30 «Новости культуры».
11.40 Школьная драма «Не помню лица твоего».
13.00 «Я всегда пою с удовольствием...».
13.30 «Новости культуры».
13.45 «Ох, уж эти детки!» (США). Мультсериал.
14.30 «Кто мы?» из цикла «Реформы по-русски».
15.00 Новости.
15.10 «Энн из поместья «Зеленые крыши». Сериал.
15.45 «Ноу-хау». Тележурнал.
15.55 «Штрихи к портрету художника». Мирэль Шагинян.
16.25 «Все суры Корана».
16.35 «Вихрь цветов» (Франция). Сериал.
17.30 «Новости культуры».
17.40 «ADF III».
18.20 «Магия кино».
18.30 «Золотой пьедестал». Николай Озеров.
18.55 «Вечерняя сказка».
19.05 «Матч-реванш». Мультфильм.
19.30 «Новости культуры».
19.50 «И огонь, и пламя» (Франция - Германия, 1993). Сериал.
20.45 «После новостей...».
21.05 «Обсерватория».
21.30 «Стоявшие вдоль дороги. Винсент Ван Гог» (Голландия - Бельгия, 1990). Художественный фильм. 2-я серия.
22.30 «Action. Новый жанр?».
23.00 «Новости культуры».
23.20 Программа передач.

**ТВ6**
05.00 День за днем.
05.45 Дорожный патруль.
06.00 День за днем.
08.00 Новости.
08.25 Комедия «Щедрое лето».
10.00 Сериал «Шпионские игры».
11.00 Телемагазин в Минске.
11.10 Сериал «Следствие ведут знатоки».
12.15 «Наши любимые животные».
12.50 Сериал «Последний Дон».
14.00 «Сегодня».
14.30 Сериал «Чехов и К...».
15.25 Телемагазин в Минске.
16.20 Сериал «Третья планета от Солнца».
16.50 Сериал «Возвращение Шерлока Холмса».
18.00 «Сегодня».
18.40 Сериал «Шпионские игры».
19.45, 0.35 Дорожный патруль.
20.00 «Сегодня».
20.40 Сериал «Последний Дон».
22.00 «Сегодня».
22.40 Дорожный патруль.
22.55 Комедия «Самый желанный мужчина».

**МОЙ ВЫХАДНЫ**

# РОК-МУЗЫКА НАШАГА ДОМУ

Пачатак 90-х гадоў на Беласточчыне знамянальны ўзнікненнем адметнай у культурным краявідзе з'явы – фестывалю музыкі маладой Беларусі „Басовішча". Назва фестывалю ўзнікла ад яго пачынальніка – беларускага аб'яднання студэнтаў у Польшчы (БАС) – маладой арганізацыі, радавод якой сягае да пачатку не менш знамянальных для гісторыі РП 80-х. Першы фестываль „Басовішча" прайшоў у ліпені 1990 г. Ад гэтай пары традыцыйным месцам правядзення імпрэзы стаў гарадоцкі лес Барык, а тэрмінам – прыкладна палова ліпеня.

Сёлетняе „Басовішча" было адным з найвялікшых за ўсю гісторыю фестываляў. Першым вечарам (да 3 гадзін ночы) – з 20 на 21 ліпеня – на сцэне запрэзентаваліся з два дзесяткі гуртоў з РБ і РП (як удзельнікаў конкурсу, гэтак і міналагодніх лаўрэатаў), а таксама маладая, але з вельмі чыстым гучаннем брытанская каманда Epicentre. Тут варта заўважыць, што тамтэйшыя The Dvery яўна пасунуліся ў бок польскага шоу-бізнесу, заспяваўшы за гэты год не толькі па-беларуску.




Адзін з галоўных (разам з Беларускай музычнай альтэрнатывай з РБ) арганізатараў мерапрыемства –БАС – сваю ўзнагароду прысудзіў гомельскаму гурту „Бан Жвірба", які імкнецца спалучыць адносна цяжка-бруднае (a la punk) гучанне з "неаднароднымі" з'явамі нашага бескультур'я – у прыватнасці, з прапагандай любові да ўжывання танных вінных напояў (шчыра кажучы, той жа "Зьніч" ці "Таболіч & Splenetic" ігралі куды больш зладжана за гамяльчан, а Aquamorta і ўвогуле скалынула натоўп сваёй змрочнай сумессю хардкора з блэк-металам...). Войт гміны Гарадок, на правах гаспадара сцэны, узнагародзіў папсаваты „Праект 2001", які быў заснаваны адмыслова дзеля „Басовішча-2001" маладзёнамі з розных мясцовасцяў Беласточчыны.

Беларускі саюз у Рэчы Паспалітай узнагародзіў беластоцкі гурт „0 85" – гэтую каманду стварылі музыкі, якія ўжо паказваліся на „Басовішчах" у розных саставах (цяпер аб'ядналіся вакол колішняга вакаліста „Брагі" – Юркі Асенніка). Беластоцкая студыя HERTZ сваю галоўную ўзнагароду – бясплатны запіс альбома – дала мінскаму гурту Impett (дарэчы, апошні, страціўшы бэк-вакалістку і тым самым згубіўшы меладычнасць, па жорсткасці асноўнага жаночага вакалу вельмі нагадаў пра некалі славуты польскі гурт BAJM – апошняе, відаць, і "купіла" беластаччан). Гэты гурт існуе ўсяго каля году, і ўжо ёсць надзея запісаць першы альбом. Сярод гасцей Радыё "Рацыя" грашова ўшанавала Ulis за вернасць беларускай ідэі.

Другой ноччу ігралі новыя лаўрэаты разам з вядомымі па ранейшых фестывалях зоркамі – KRIWI, Ulis, „Крама", „Палац", N.R.M., а таксама прэзентавалі сваю аўдыёкасету „Праз жыццё" мінулагоднія лаўрэаты RIMA (Гарадок). Цікава, хто з сёлетніх лаўрэатаў праіснуе да ліпеня 2002 г., хто ў будучыні пахваліцца сваім альбомам... Адзіным цалкам польскамоўным госцем быў слынны гурт Pidzama Porno з Познані, які запомніўся не толькі тыпова польскім іранічным пост-панкам, але і нескаванай непрыязнасцю да дзеючага прэзідэнта РБ.

Завяршылася „Басовішча-2001" выступам англійскага гурту Meyze. Менавіта тады, калі выконвалася славутая кампазіцыя Pink Floyd "Another Brick in the Wall, part 2" (We don't need no education / We don't need no thought control...) спевакі пераапрануліся ў спартовыя кашулі з беларускай сімволікай, а лідэр-вакаліст Tony Caplin вынес на сцэну вялікі бел-чырвона-белы сцяг. На жаль, пераважная частка гледачоў з РБ былі ўжо знясілена-задаволеныя выступам N.R.M. і таму спачывала ...

**Вадзім АЛЕКСАНДРОВІЧ.**

*29 ліпеня ў сталічным парку Чалюскінцаў прайшоў Кубак Свабоды памяці Генадзя Карпенкі, прымеркаваны да Дня Незалежнасці. Удзел у гульні прынялі 8 каманд: Фонда Генадзя Карпенкі, БНФ, ОГП, КХП – БНФ, Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада), "Зубра", зборнай журналістаў і моладзёвай кааліцыі "Пераменаў!". У фінале гульцы з Фонда Карпенкі выйгралі ў журналістаў. Пераможцам уручылі крыштальную вазу. Лепшым бамбардзірам прызнаны Уладзімір Дорахаў з журналісцкай зборнай.*






# Беларускі календар
## 1 жніўня

***Радзівілаў называлі "некаранаванымі каралямі". На працягу стагоддзяў род Радзівілаў быў адным з наймагутных і найбагацейшых не толькі ў Беларусі, а бадай што ва ўсёй Еўропе. Памеры радзівілаўскіх уладанняў перавышалі тэрыторыі некаторых еўрапейскіх краін. Скарбніца Радзівілаў была багацейшай за дзяржаўную казну. Радзівілы кантралявалі амаль палову ўзброеных сіл дзяржавы. «Кароль у Варшаве, а Радзівіл у Нясвіжы", – казалі сучаснікі.***

Заснавальнікам Нясвіжскай ардынацыі, ці маярату – непадзельнага магнацкага ўладання, якое нельга прадаваць ці дарыць, а толькі перадаваць у спадчыну – быў Мікалай Крыштаф Радзівіл Сіротка, адна з найбольш цікавых постацяў славутай сям'і.

Аб паходжанні мянушкі "Сіротка" распавядае хроніка Длугаша. Калі Мікалай Крыштаф быў яшчэ маленькім хлопчыкам, ягоныя бацькі – Мікалай Радзівіл Чорны і Альжбэта Шыдлавецкая – узялі яго з сабой да каралеўскага двара на вяселле аднаго з дваранаў. Бацькі пайшлі на баляванне, а сына пакінулі ў пакоі каралеўскага палаца. Неўзабаве малому зрабілася самотна і страшна, ён пачаў плакаць. Яго пачуў кароль і вялікі князь Жыгімонт Аўгуст, які выпадкова праходзіў побач. Кароль зайшоў у пакой, пачаў суцяшаць і забаўляць хлопчыка, а калі падышлі бацькі ды іншыя госці, сказаў: "Што ж вы пакінулі аднаго беднага сіротку?" Так гэтая мянушка прыстала да Мікалая Крыштафа на ўсё жыццё.

Бацька Мікалая Крыштафа, Мікалай Чорны, быў пратэстантам, кальвіністам, падтрымліваў і праводзіў ідэі Рэфармацыі на беларускіх землях. Сіротка атрымаў пратэстанцкае выхаванне і пратэстанцкую адукацыю, вучыўся ў Страсбургу, Цюбінгене. Але, застаўшыся ў 15 гадоў без бацькі, трапіў пад уплыў Пятра Скаргі – здольнага і разумнага езуіта, заснавальніка Віленскага універсітэта – і перайшоў у каталіцтва.



**Мікалай Крыштаф Радзівіл Сіротка**
**1.08.1549–28.02.1616**

Як амаль усе мужчыны роду Радзівілаў, Мікалай Крыштаф займаўся палітыкай: меў пасады вялікага літоўскага маршалка, троцкага (пазней – віленскага) ваяводы, уваходзіў у склад пасольства ў Парыж для запрашэння на столец французскага прынца Генрыха Валуа.

Як бадай усе шляхцічы, Сіротка пакаштаваў і ваеннай справы: браў удзел у Лівонскай вайне, у бойках пад Улай, Полацкам, Псковам, быў паранены. Гэта пагоршыла і без таго слабое здароўе Сіроткі, але не пазбавіла яго актыўнай жыццёвай пазіцыі. Стаўшы шчырым католікам, Мікалай Крыштаф Радзівіл пачаў вынішчаць у Беларусі ўсё пратэстанцкае. Немагчыма перабольшыць значэнне Сіроткі для перамогі Контррэфармацыі ў Беларусі. На сваіх землях ён зачыняў пратэстанцкія цэрквы і школы, выганяў пратэстанцкіх прапаведнікаў, запрасіў у Нясвіж ордэн езуітаў, створаны адмыслова для барацьбы з Рэфармацыяй, і фундаваў для езуітаў касцёл з калегіюмам.

Гэты касцёл, былы езуіцкі, а цяпер фарны, першы ў Беларусі ў стылі барока, пабудаваны італьянскім архітэктарам-езуітам Янам Марыяй Бернардоні, і сёння ўражае сваёй веліччу і дасканаласцю. Два бакавыя алтары касцёла ўпрыгожаны пахіленымі калонамі, што сімвалізуюць вераадступніцтва Радзівілаў. Але калоны не ўпадуць: іх падтрым-ліваюць анёлы. Так і ордэн езуітаў падтрымаў Мікалая Крыштафа Радзівіла, які пахіснуўся ў бок пратэстантызму... Для адкуплення грахоў вераадступніцтва Сіротка здзейсніў паломніцтва ў Святую зямлю, у Палесціну, дзе наведаў святыя мясціны, зрабіў ахвяраванні касцёлам у Іерусаліме і Віфлееме. Канвентам іерусалімскага ордэна бернардзінаў Мікалай Крыштаф быў абвешчаны рыцарам Гробу Гасподняга і пракуратарам Святой зямлі.

Вяртанне дамоў зацягнулася на два гады. Сіротка вандраваў па Егіпту, Сірыі, пабываў на Крыце, у Александрыі. Вандроўка бывала часам цяжкай і небяспечнай, здаралася Радзівілу спаць на голай зямлі, захінуўшыся ў свой пілігрымскі плашч. Падарожныя прыгоды іназіранні Сіротка занатоўваў у дзённіку, які пасля вяртання ў Нясвіж перапрацаваў у кнігу, што стала сапраўдным бестселерам свайго часу.

Ужо сталым чалавекам, ва ўзросце 35 гадоў, Мікалай Крыштаф ажаніўся з 15-гадовай Альжбэтай Яўфіміяй Вішнявецкай, пратэстанткай, якую пераканаў прыняць каталіцтва. Дарэчы, не толькі яе, але і цешчу ды траіх уласных братоў. Адзін з братоў Сіроткі, Юры, нават стаў кардыналам. З двума іншымі, Станіславам і Альбрыхтам, Мікалай Крыштаф у 1586 годзе утварыў тры ардынацыі: Нясвіжскую, Алыцкую і Клецкую. Дзякуючы нястомнай працы Мікалая Крыштафа Радзівіла Нясвіжская ардынацыя стала самай багатай і моцнай, а Нясвіж, сталіца радзівілаўскіх уладанняў, ператварыўся ў буйны культурны цэнтр. Пры Сіротцы Нясвіж быў перапланаваны, абнесены валам з бастыёнамі і гарадскімі брамамі. Поруч з горадам Сіроткам быў пабудаваны магутны мураваны замак. Сіротка дамогся ад караля Стэфана Баторыя надання Нясвіжу Магдэбургскага права. Сіротка фундаваў у Нясвіжы, акрамя езуіцкага, яшчэ і бернардзінскі касцёл і кляштар, а ягоная жонка Альжбэта Яўфімія – бенедыктынскі, першы жаночы каталіцкі кляштар у Беларусі.

Аніякай магнацкай пыхі не было ў першым нясвіжскім ардынаце. Сіротка вёў сціплы лад жыцця. Нават пахаваць сябе казаў у сутарэнні Нясвіжскага касцёла, у вопратцы пілігрыма. Злева ад алтара Нясвіжскага фарнага касцёла можна ўбачыць надмагілле Мікалая Крыштафа Радзівіла з барэльефам, на якім Сіротка выяўлены на каленях, у паломніцкім адзенні. Рыцарскае ўзбраенне ляжыць, нядбайна адкінутае, ззаду. Лацінскі надпіс пад барэльефам нагадвае, што перад Богам ніхто з нас не рыцар, а толькі вандроўнік-пілігрым...

**Наталля МЯЦЕЛЬСКАЯ.**

## ПРОГРАММА ТВ — ВОСКРЕСЕНЬЕ, 12 АВГУСТА

**БТ**
7.00 Д.Хоппер в детективе «Сердце справедливости»(США).
8.35 «Агромир». Информационно-аналитическая программа.
9.00, 15.00 Новости.
9.15 «Маугли». Мультфильм. 2-я и 3-я серии.
9.55 «Одиссея команды Кухто». Телеигра.
10.30 «Все нормально, мама!» Развлекательная программа.
11.05 Большой завтрак.
11.30 «Славянский базар в Витебске-2001». Избранное.
12.30 Арсенал. Программа об армии.
13.00 Развлекательный сериал «Возможно, они сошли с ума»(Великобритания-Австралия).
13.30 Сериал по выходным. «25 градусов на Юг»(Международный Французский Канал).
14.25 «И другие официальные лица».
14.35 25-й кадр.
15.15 «Встреча в Троицком» с Александром Домарацким.
15.45 Криминальное досье.
16.15 К.Лавров, А.Папанов в военной драме «Живые и мертвые»(«Мосфильм»). 1-я и 2-я серии.
19.40 Телебарометр. Прогноз погоды.
20.00 Резонанс.
20.50 Спорт-курьер.
21.05 Ж.Маре в драме «Вечное возвращение»(Франция).
22.55 Неделя высокой моды в программе «Новая коллекция»

**ОРТ**
07.40 «Дисней-клуб». «Русалочка».
08.05 «Ералаш».
08.20 «Ускоренная помощь». Сериал.
08.50 «Библиомания».
09.00 Новости.
09.10 «Непутевые заметки».
09.30 «Пока все дома».
10.05 «Клуб путешественников».
10.45 «Сами с усами».
11.15 «Вкусные истории».
11.25 «К 100-летию Бориса Чиркова». «В поисках утраченного».
12.05 Лирическая комедия «Верные друзья».
14.00 Новости.
14.10 «Девушки с характером». Сериал.
15.05 «Дисней-клуб». «Черный плащ».
15.30 «Умницы и умники».
16.00 «Живая природа». «Правда о тигре».
17.00 Новости.
17.25 «Русская глубина». 3-я серия.
17.50 «Там, за туманами». Спецрепортаж.
18.00 Героико-приключенческий фильм «Командир счастливой «Щуки».
20.00 «Время».
20.40 Психологическая драма «Калина красная».
22.40 «Тысячелетие». Сериал.
23.30 Психологический триллер «Пистолет «Питон-357».

**РТР**
08.40 «ТВ Бинго шоу».
09.20 «Доброе утро, страна!».
09.55 «Аншлаг».
10.50 «Городок. Из раннего».
11.25 «Большой вопрос». Телеигра.
12.15 «И дольше века...».
13.00 «Вести».
13.20 «Диалоги о животных».
14.20 «Вокруг света».
15.25 Комедийный боевик «Кто я?».
17.05 «Маросейка, 12». Сериал. «Ставок больше нет».
19.00 «Вести».
19.35 Приключенческий фильм «Книга джунглей».
21.50 Чемпионат мира по легкой атлетике.
23.10 «Праздник «Московского комсомольца». 15 лет - полет нормальный».
00.05 Прогноз погоды.

**НТВ**
07.00 Сегодня.
07.20 Сериал «Новые приключения Супермена».
08.20 «Женский взгляд».
09.00 Сегодня.
09.20 Фильм «Это я, Натали».
11.00 Сегодня.
11.25 Профессия - репортер.
11.55 Фильм «Обыкновенные люди».
14.05 Намедни-86.
15.00 Сегодня.
15.30 Путешествия натуралиста.
16.10 Большие родители.
16.50 Сериал «Иллюзия убийства».
18.00 Сегодня.
18.40 «Куклы».
18.55 Боевик «Мерцающий».
20.50 Комедия «Заряженное оружие».
22.35 Триллер «Убийца с красной лентой».

**КУЛЬТУРА**
09.00 Программа передач.
09.05 Фильм-сказка «Финист - Ясный Сокол».
10.20 «Спортландия». Мультфильм.
10.35 «Экспедиция «ЧИЖ».
11.00 «Машины времени».
11.30 «Бабушкины рецепты».
11.40 «Ключ». Мультфильм.
12.35 «Зарубежное документальное кино». «Одержимый Сутин».
13.30 «Новости культуры».
13.45 «Полет орла» (Швеция, 1982). Художественный фильм. 2-я серия.
15.05 «Последний лепесток», «Как Маша поссорилась с подружкой». Мультфильмы.
15.35 Ток-шоу «Наобум».
16.05, 17.35 Телеспектакль «Капитанская дочка». Запись 1978 года.
18.50 «Вечерняя сказка».
18.55 «Легенды дикого Севера» (Франция, 1994). Художественный фильм. 2-я серия - «Кровь охотника».
20.30 «Романтика романса».
21.00 «Новости культуры».
21.20 «Личные воспоминания о большой жизни».
21.25 Мелодрама «Секреты сердца».
23.05 «Леди и джентльмены». Мультфильм для взрослых.
23.20 Программа передач.

**ТВ6**
06.10 Дорожный патруль.
06.25 Фильм «Алитет уходит в горы».
08.10 Сериал «Дежурная аптека IV».
09.05 «Все в сад!».
09.30 «Сеть».
10.00 Телемагазин в Минске.
10.15 Дорожный патруль.
10.35 Фильм «В мирные дни».
12.25 «Лицо кавказской национальности».
13.05 «Мое кино».
14.00 «Сегодня».
14.30 Сериал «Самые громкие преступления XX века».
15.05 «Вы - очевидец».
15.50 Катастрофы недели.
16.45 Сериал «Агент национальной безопасности-II».
18.00 «Сегодня».
18.45 Сериал «Агент национальной безопасности II».
20.00 Дорожный патруль.
20.15 Фильм ужасов «Кошмар на улице Вязов-5».
22.10 Комедия «Свадьба гробовщика».



РАБОЧЫ
ШТОТЫДНЁВАЯ МАСАВА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

Заснавальнік і галоўны рэдактар **Віктар ІВАШКЕВІЧ**

*Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1255 ад 27.12.99г. Наклад 20 000.*
*Нумар падпісаны ў друк 31.07.2001 г. у 19.00. Заказ 603*
*Надрукавана ў друкарні ПП "Мэджык" (г. Мінск, вул. Кнорына, 50а)*

Адрас рэдакцыі:
**220030, г.Мінск, пл.Свабоды,23, «РАБОЧЫ»**
**E-mail: kapp@irex.minsk.by**
Тэл. (017)227-04-54
Тэл./факс (017)227-13-16